# РЭАНІМОВА з над Нёманĕ

1989 № 2


## Сеньня на пласе родная мова...

Ларыса Геніюш

Якраз выдалася нагода ўзяць інтэрв"ю ў беларускага пісьменьніка Сакрата Яновіча зь Беластоку.

-Ці не перабольшваем мы, ужываючы тэрмін "рэанімова" адносна беларускай мовы?

-Мэдычны тэрмін "рэанімацыя" надта дарэчы тут. Інфарктная сітуацыя, у якой апынулася беларуская мова -- у сэнсе яе грамадзкага значэньня перш-наперш -- падказвае і катэгарычнасьць сродкаў:стаўкаю ёсьць жыцьцё.Хвіля-другая марудлівасьці -- і яно можа згаснуць назаўсёды.

Беларушчыны не выратуе ідэалёгія "матчынай мовы","роднай мовы".Людзі сэнтымэнтальна плачуць і бязьлітасна падлічваюць грошы,чытай:жыцьцёвыя шанцы .У бездзяржаўі мову ўтрымлівае цемната ўсеагульная або высокі гонар.Трэцяе выйсьце -- гімалайская ізаляванасьць?

Ва ўмовах сапраўды нацыянальнай дзяржаўнасьці ўсе гэтыя разважаньні не маюць сэнсу (матэрыял у тэатр абсурду).

Змаганьне беларусаў за сваю мову будзе утопіяй без вяртаньня да жыцьця гісторыі Беларусі.Гістарычная сьвядомасьць -- фундамент нацыянальнай.Заўважце:не мова(напрыклад,швейцарцы размаўляюць ажно на чатырох!).

-Сакрат,кажуць, можна быць беларусам без беларускай мовы.Што ты на гэта скажаш?

-Гэтая інтэлектуальная спекуляцыя разьлічаная на чвэрцьінтэлігентнасьць.Ірландцы дабіліся Ірляндыі,ужо будучы англамоўнымі.Таму ім гэтая мова -- не пагроза як і амэрыканцам ці канадцам. Беларуская ССР стабілізавалася ж як беларускамоўная. Таму пераўтварэньне яе ў правінцыю рускага маўленьня раўназначнае дэградацыі у адміністрацыйна-геаграфічнае паняцьце.

Беларускі нацыянальны рух не быў рускамоўным,бо беларуская мова да яго ўзьнікненьня не была перыферыйным успамінам.

Сіндром мовы і гісторыі,моўнай і гістарычнай сьвядомасьці,-- у выпадку Беларусі зруйнавалі.Тэндэнцыі адрадзіць яго -- натуральныя, а глумленьне іх дае толькі адзіна магчымы вынік:дэнацыяналізацыю.І пасьлядоўна Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка як дзяржаўнае ўтварэньне заходняга фрагмента рускай нацыі з адрозьненьнямі ўсяго этнаграфічна-эканамічнага характару -- на падобным прынцыпе магла б ужо ўзьнікнуць Данская ССР ці Сібірская ССР.

Жывучасьць імперскай ідэалёгіі вызначае гістарычная непісьменнасьць. Міфы замест навуковых доказаў.Фікцыя старажытнарускай мовы і старажытнарускай дзяржавы.Імпутацыя загледжанасьці Белай Русі на Маскоўскую.Містыфікацыя, якая бессаромна абмінае проста букварную праўду,што дабрабыт і разьвіцьцё ішлі,менавіта,ад Захаду(яшчэ Пётр І зразумеў гэта).Ніхто ж не бяжыць ад лепшага да горшага...

Сутыкненьне дэмакратызму з дэспатызмам. Супрацьстаўныя стыхіі.Як агонь, як вада,.. Гэта канфлікт псіхалёгіі беларуса і псіхалёгіі рускага.Не мусіць так быць,калі ўдасца "перастройка".Яна згладзіць каланіяльную атмасферу ў Беларусі,манаполь усяго рускага на ўсякія праўды ды прыгажосьці.Білінгвізм, які зводзіцца да першараднасьці рускай мовы, быццам функцыянаваньне каланіяльных моваў у пасьлякаланіяльнай Афрыцы,данацыянальнай.

Аргументацыя,якая абражае:руская мова далучае беларусаў да сусьветных каштоўнасьцяў. Гэта праўда, але аднабаковая,ампутаваная. Грош цана беларускай -- калі яна не здольная выконваць гэтую ж ролю. А вось -- няпраўда!

- Як ты думаеш, Сакрат, адкуль у нас такая прыгнечанасьць,сорам мовы?

- Адкуль бяруцца такі моўны імперыялізм? Адкуль такая прыніжанасьць здабыткам беларускага духу? Апарат розуму тут бясьсільны. Мы -- у сферы містыкі.Яна не сутыкаецца з рацыяналізмам.У лепшым выпадку паслугоўваецца стратэгіяй апераджальных фактаў;у рускія кніжкі перакладзены ўвесь сьвет.Законнае пытаньне:чаму ж і не ў беларускія? А чаму,скажам, нават не ў эстонскія -- не згадваючы пра дэмаграфічна нашмат меншую за Беларусь Швецыю з яе Нобэлеўскай прэміяй! У чым сакрэт? Не толькі ў эканоміцы, не толькі...

Не ганарыцца беларускаю моваю той,хто не ўсьведамляе сабе яе вялікай гісторыі,а прынамсі таго,што створаны на ёй першы ў Еўропе кодэкс правоў і была першая ва Усходняй Еўропе друкарня,на стагодзьдзе раней,чымсьці ў Расіі.І гэтак далей і далей.Русіфікацыя,як і паланізацыя,спыняюцца на парозе беларускай культуры,культурнасьці.Глынаюць яны нацыянальна непісьменных,духоўна каланізаваных.Прыкладна:Рым не раманізаваў Грэцыю -- роўня яму была, хоць і заваяваная.

Прагна ўглядаюся ў клін жураўліны.
Крыкі іх думы палоняць мае.
Глянь -- лятуць жа яны праз даліны
недзе ў сьвятыя мясьціны свае.

Нават і птушкам Радзіма патрэбна.
Край свой штогодна іх цягне чамусь.
Хто ж вінаваты, што здрадай ганебнай
Каіны плямяць Цябе,Беларусь?

В.С.



### В е р а ю   п а з н а е м

Хай захапляюцца росквітам -- вы ім на верце,
Уночы брыдзе Беларусь,бы зьдзічэлая здань.
Лепей ад кулі сканаць,чым самім сябе зжэрці.
Хто не зрасеяны ўшчэнт,з апраметнай устань!

Северо-западным краем ізноў называцца?
Слухаць,як з нас насьміхаецца дужы сусед?
Хлопцы,з кальсак,з магілаў пара падымацца!
Сэрцы з ладункам любові -- супраць ракет.

З працы што звольняць,баімся,начальства і здрады.
Кожны,бы крот,закапаўся асобна ў нару.
Страхам здаўненым атруцілі нас бюракраты.
Веры вам,хлопцы,дзяўчаты,-- жыве Беларусь!

М.

У Імя Айца і Сына і Духа Сьвятога. Аман

### • Малітва Хрыстова

Ойча наш каторы ёсьць у небе сьвятым будзь Імя Тваё прыйдзі валадарства Тваё будзь воля Твая як у небе так і на зямлі

Хлеба нашага штодзённага дай нам сягоньня і адпусьці нам нашыя грахі як і мы адпушчаем нашым вінаватым і не ўвадзі нас у спакусу але збаў нас ад ліхога. Аман

### • Анавяшчэньне Анельскае

Вітай Марыя поўная ласкі Госпад з Табою благаслаўлена Ты між жанчынаў і благаслаўлены плод улоньня тваіго - Е з у с

Сьвятая Марыя Маці Божая маліся за нас грэшных цяпер і ў хвіліну сьмерці нашае. Аман.

### • Спазнаньне веры

Веру ў Бога Айца Усемагутнага тварца неба і зямлі і ў Езуса Хрыстуса Сына Яго адзінага Госпада нашага каторы пачаўся з Духа Сьвятога нарадзіўся зь Дзевы Марыі

замучаны пры Понцкім Пілаце укрыжаваны памёр і пахаваны сышоў у пекла трэцяга дня паўстаў з умёршых

узышоў у неба сядзіць праваруч Бога Айца Усемагутнага адтуль прыйдзе судзіць жывых і памёршых

веру ў Сьвятога Духа Сьвяты Касьцёл Каталіцкі(паўсюдны) лучнасьць сьвятых адпушчэньне грахоў паўстаньне з умёршых жыцьцё вечнае. Аман.

### • Дзесяць божых загадаў

Я ёсьць Госпад Бог твой, каторы вывеў цябе зь зямлі Егіпта з дому няволі

1. Не мей другіх багоў апроч Мяне
2. Не гавары Імя Бо зе без пашаны
3. Помні дзень сьвяты сьвяткаваць
4. Паважай бацьку і матку сваю
5. Не забівай
6. Не распусьнічай (не чужалож)
7. Не крадзі
8. Не гавары(не сьведч)няспраўядліва супроць другога чалавека
9. Не пажадай чужой жонкі(а жонка чужога мужа)
10. Не квапся на чужое

### • Загад любові

Любі Госпада Бога свайго ўсім сэрцам сваім усёй душой сваёй усім розумам сваім і ўсімі сіламі сваімі а блізкага свайго як самога сябе

### • Сахвала Тройцы Сьвятой

Хвала Айцу і Сыну і Духу сьвятому як была спрадвеку цяпер і заўсёды і на векі вечныя. Аман

## Хрыстос уваскрос

### Ларыса Геніюш

Хрыстос уваскрос і сьвет прачнуўся
Лісьцём на гольлечку бяроз.
Ударыў звон па Беларусі:
-Хрыстос ўваскрос! Хрыстос ўваскрос!

Хрыстос ўваскрос з крыві і болю.
Каб сьветач праўды не пагас,
Уваскрос ён для крывіцкіх сёлаў,
Уваскрос ён, брацьця, і для нас.

І будзем верыць мы, ў кайданах,
Узьняўшы сэрцы угару,
Што так, як Бог ускрыжаваны,
Уваскрэсьне наша Беларусь.

## Роздум маладога чалавека ад веры

Калі б я шчыра пісаў у газэту наконт рэлігіі, то гэта выглядала б так...
...Сэнс рэлігіі для кожнага суб"екта можа выглядаць па рознаму, але аб"ектыўна ён адзін. Чалавек павінен увайсьці ў свой Кон... Кожны чалавек мае прастору, час, патэнцыі -- дзеля разгортваньня свайго жыцьця. Але ўжо ў дзяцінстве пачынаюць яго псаваць умовы, дрэнныя звычкі бацькоў, блізкіх, якія перадаюцца і маладому. І, менавіта, ад нявопытнасьці ў маладых часам прыжываецца грах. А бывае, што яго прывіваюць дарослыя сьвядома . І Біблія кажа, што"грэх ад маладосьці" ўплывае на ўсё астатняе жыцьцё. І рэлігія на любым этапе жыцьця можа дапамагчы чалавеку паменшыць уплыў на штодзённыя падзеі яго хібаў, зробленых раней сьвядома або несьвядома; а хрысьціянская рэлігія можа адчыніць яму вочы і на сутнасьць фактараў, якія найважнейшыя ў розных(ува ўсіх)сферах жыцьця, на сёньняшні "Аб"ектыўны дзень".

Кірунак, які выбраў у жыцьці я, а дакладней можа выбраў мяне ён, -- называецца пратэстантызм.

Біблія дзеля мяне спачатку была толькі сьвятой і недатыкальнай кнігай, дзе я ўлоўліваў толькі некаторыя палажэньні, а дакладней, дазваляў сабе атаесамляць свае паводзіны з прынцыпамі, якія былі самыя зразумелыя ў кнізе. Паступова я зразумеў, што ўвесь аб"ём нашай сьвядомасьці меньш, часцей за ўсё, таго, што закладзена ў кнізе. І я стаў часам у скрусе, непасрэдна шаптаць да Пана Бога. І, цуд, я пачаў атрымліваць адказы, якія можна характарызаваць толькі як "ад самога Пана Бога". Псіхалагічна гэта інфармацыя абсалютна не залежыць ад тых тэндэнцый, якія часам"адчыняюць" нам матэр"ялісты,-- "д"ябляняты чырвоныя",-- на старонках сваіх шматлікіх і безнадзейных кніг. Яны, успрымаючы свае пачуцьці мроі, думкі, акцэнты , шукаюць іх інтэрпрэтацыю ў асьветніцкім рэчышчы інфармацыі. А гэта, як вядома, толькі тое, да чаго дайшло чалавецтва ў тэхнічным увасабленьні сваіх ідэй сёньня. Каротка кажучы -- "што ўспрымаюць камп"ютэры-машыны і гэтым падцьвярджваюць нібыта нейкі агульнадасканальны вопыт -- тое прызнаю ў сабе і я". А тое, што не так,-- я ў сабе і ў іншых адмаўляю..." Так адбываецца, напрыклад, з феноменам біяполя...

Ёсьць і эмацыйны заганны дэвіз таксама:"Чалавек павінен жыць, каб быць патрэбным іншым". І атрымліваецца той жа вынік: чалавек арыентуецца праз гэты асьветніцкі, а не адукацыйны, правільны лёзунг на рэакцыю часта няшчырую ў акружаючых, але і не ўплятае сваё прыватнае акцэптаваньне, інтарэс у жыцьцё,-не вымярае жыцьцё сабою,-- і ў выніку для грамады ён не асоба, а проста функцыянер, крывадушнік, пустадомак.

Калі ж чалавек паглядзіць глыбей і задумаецца, то ён можа зразумець, што і мроі нават, а не толькі мары і жаданьні, трэба ўсьвядоміць на фоне унікальнасьці жыцьця. А калі не ўсьвядоміць, то ўплываць на іх станоўча, каб яны не залежалі ад выпадку, ад недавыхаванасьці, недасканаласьці. Я асабіста зразумеў, што, менавіта, дзеля гэтага дадзеная нам малітва. Але ёсьць і супрацьлеглы шлях, паралельны,-- паверыць, што гэта так, што ў безвыходнасьці, шчырасьці, адчыненасьці малітвы -- нас можа пачуць Пан Бог.

Ітак, ёсьць два шляхі да ісьціны: спачатку зразумець, а затым паверыць у Бога ці спачатку паверыць, а затым зразумець -, і дойдзеш да яго падножжа...

А.Ш. г.Мэнск

Мы хацелі б даведацца ад сваіх "нефармальных" чытачоў, як яны адносяцца да лацінкі.

На Беларусі лацінскі алфавіт вядомы са старажытнасьці, многія помнікі напісаны лацінкай. Нельга забываць пра нашых ў нашым краі пісьменьнікаў, якія карысталіся лацінскай мовай як славуты Мікола Гусоўскі.

У 19 стагодзьдзі Ян Чачот, Паўлюк Багрым, В.Дунін-Марцінкевіч, Францішак Багушэвіч ужывалі і лацінку і кірыліцу; лацінкай друкавалася "Мужыцкая праўда" і "Наша ніва", у Заходняй Беларусі лацінка існавала да 1939году, а цяпер ёю карыстаюцца некаторыя эміграцкія выдавецтвы; беларускія пісьменьнікі, хто жыве ў Беластоку, пачалі друкаваць свае зборнікі ў польскім выдавецтве лацінкай.

Аднак беластачане не баяцца русізмаў, у той час як тут захапляюцца паланізмамі.

Часам разважаюць так, што беларуская мова была б у лепшых варунках, каліб карысталася толькі лацінкай. У такіх разважаньнях вялікая доля праўды.

Давайце навучымся чытаць і пісаць лацінкай! Прапануем успомніць лацінскі алфавіт і прачытаць некалькі вершаў

*Aa, Bb, Cc, Ćć, Čč, Dd, Ee, Ff, Gg, Hh, Ii, Jj, Kk, Ll, Łł, Mm, Nn, Ńń, Oo, Pp, Rr, Ss, Śś, Šš, Tt, Uu, Ŭŭ, Ww, Yy, Zz, Žž, Źź.*

*Nad konaŭ i stawu, nad čary kachańnia narodnuju sprawu i pierakanańni, što rozum dychtuje, zaŭsiody ja wolu, nia zdradžu nikoli.*

*Chaj chmara nawiśnie nad sonnaj ziamloju, chaj hora prycišnie žaleznaj rukoju, — ja rodnyje mowy nia kinu ĭ niadoli, nia zdradžu nikoli.*

*Chaj hrom z piarunami hrymić i stralaje, małanka ahniami chaj bliskaje, žziaje, — swajko ja narodu, biaz chleba i soli, nia zdradžu nikoli.*

У рэдакцыю прыйшоў ліст, у якім чытач задае пытаньне, ці праўда, што ва ўстановах разам з кіруючымі пасадамі даюць норкавыя шапкі.

Мы не ведалі, што адказаць чытачу. Але пасьля мітынгу на менскім стадыёне "Дынама" мы зразумелі, што шапкі даюць, але не задарма...

Я сьвіней адганяю: "Аюсь!"
Вось дзе нюх на магчымасьць пажраць!
Як жа мне ад цябе, Беларусь,
Ненажэрных кныроў адагнаць?

Так і лезуць і пруцца лычы,
Мецяць гноем пасады свае.
Вы ці чуеце? -- кожны вішчыць
І наперад да зораў заве.

О, магічная зорная ўзвыш!
Не адзін там рамантык зачах...
Кыш, кныры ненажэрныя, кыш!
Вас народ пазнае па лычах.

Каб жа розум пазычыць маглі
Ці сумленьня хоць трохі узяць...
Дзе там! Лезуць і пруцца кныры
У жаданьні папіць і пажраць.

Мне балюча глядзець, Беларусь,
З цябе хочуць карыта зрабіць!

...Я сьвіней адганяю: "Аюсь!"
Бо пры сьвіньнях Радзіме не жыць...

Івар Г.

## Жарты Палесься

Жеба в еме еблыко кочела.
Я на жебу наступев -- жеба чьверкнула.

●

Віднего ранку пріїхав вонук до діда на село. Пополуднова́вше, ек завжде з "jамjенe" почеле говорете. Вонук пітає в діда:
-Ну, ек віте живете?
-Тај добре, але просоромевся перед рабухаме.
-А шчо так?
-Ды яво учора повісьвь шпєрку на двір, шоб подсушелася, а рабухє, шалапутє, вьзялє і зьілы. То тепєркє мні, старому, буде навука: ніколє нычого нbackобе ны подумавшє.

Слоўнік:
чьверкнула - разьлезлася
рабух - верабей
яво - вось
шпєрка - сала

*пріготовів Самар Бохлянзін*

У газеце "Гродненская правда" зьмешчаны артыкул кандыдата гістарычных навук Чарапіцы, у якім той паліває памыямі беларускі клуб "Паходня" і асабліва прэзідэнта клуба, а свайго калегу па працы на кафедры гісторыі у Гродзенскім універсітэце доктара гістарычных навук, археолага Міхася Аляксандравіча Ткачова.

Чуткі сьведчаць, што артыкул павінен быў зьявіцца на другі дзень пасьля таго, як Міхасю Аляксандравічу зрабілі аперацыю і ён знаходзіўся у рэанімацыйным адзьдзяленьні.

Стараньнямі рэдакцыі артыкул быў адкладзены. Але аўтар непакоіўся, абіваў высокія парогі. Артыкул зьявіўся 10 лютага, у той дзень якраз быў назначаны акруговы сход, на якім даверанія асобы абараняліі свайго кандыдата у кандыдаты М.А.Ткачова.

Ідзе гаворка аб этыцы. Артыкул жа называўся "Давайте будем честными друг к другу" ці нешта ў такім родзе.




## рэха-без цэнзуры

Адзін нейтральны у адносінах да бюракратыі чалавек вырашыў нарэшце парушыць свой нейтралітэт. Але ён ня ведаў, на чый бок стаць: на бок прыхільнікаў ці супраціўнікаў. Нават у прэсе ня мог знайсьці адказу на пытаньне, бо у кожнага з бакоў была свая праўда, свае абгрунтаваныя доказы. Тады ён вырашыў спытаць у рэха: як яно скажа, так і будзе.

Зайшоў на Лысую гару. Вельмі голасна запытаўся:
-Штоо нясуць для беларусаў бюракраты?
Рэха яму адказала...
Ён задае другое пытаньне:
-Тады, што зь імі рабіць?

Сякерый Падлаўскі